МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№ 2 (154)
люты 2015

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ



## У НУМАРЫ:



НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## УСТАЛЮЕМ ПОМНІК РЫГОРУ БАРАДУЛІНУ ТАЛАКОЙ

Шаноўнае спадарства!

24 лютага гэтага года споўнілася б 80 гадоў слыннаму беларускаму паэту Рыгору Барадуліну.



У сакавіку будзе гадавіна з дня яго смерці. Таму ўвесну плануецца паставіць помнік на магіле паэта ў родных Ушачах на Віцебшчыне. Скульптар Мікалай Байрачны распрацаваў праект помніка, які ўхвалілі сваякі.

Рыгор Барадулін быў Народным паэтам Беларусі, перакладчыкам, даследчыкам роднай мовы, аўтарам дзясяткаў кніг, сябрам Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, ганаровым сябрам Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", ганаровым віцэ-прэзідэнтам Беларускага ПЭН-цэнтра, ганаровым доктарам БДУ, ганаровым грамадзянінам Ушацкага раёна. Творчасць Рыгора Барадуліна — гэта адлюстраванне нашай беларускай рэчаіснасці ва ўсіх яе шматлікіх праявах, гэта "залатая спадчына" беларускай культуры.

ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" і МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" лічаць, што годна ўвекавечыць памяць — справа гонару ўсіх беларусаў, і звяртаюцца да кожнага, хто любіць паэзію Рыгора Барадуліна, хто шануе памяць пра славутага беларускага песняра, выказаць яму сваю любоў і пашану, зрабіўшы свой унёсак на выраб і ўсталяванне помніка Народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну.

Далучыцца да годнай справы па ўсталяванні помніка Рыгору Барадуліну можна, пералічыўшы грошы на дабрачынны рахунак, адкрыты на імя яго ўнучкі: **ААТ "Беларусбанк", філіял 514, код 614, УНП 100420097, код віду ўкладу 9004 (дамова дабрачыннага рахунка №000039), атрымальнік Клiмiна Дамініка Канстанцінаўна, прызначэнне плацяжу – добраўпарадкаванне пахавання.**

Ажыццявіць плацеж можна ў любым аддзяленні банка і таксама з дапамогай інфакіёскаў і інтэрнэт-банкінгу (выбраць – "Плацяжы", – "Адвольныя плацяжы", – "плацеж па рэквізітах" – нумар транзітнага рахунка 3819382102369).

Адносна міжнародных пераводаў інфармацыя будзе дадаткова. Сачыце за навінамі на сайтах lit-bel.org, zbsb.org, budzma.by

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# ЛЮТАЎСКІЯ СВЯТЫ Ў БЕЛАРУСАЎ МАЛДОВЫ

Сімптаматычна, што Дзень роднай мовы (21 лютага), Масленіца (22 лютага) і Дзень абаронцы Айчыны (23 лютага) стаяць побач.

20 лютага ў Кішынёве на сцэне Дома нацыянальнасцяў прайшоў літаратурна-музычны конкурс, прысвечаны Міжнароднаму дню роднай мовы. Са сцэны гучалі вершы і песні на рускай, украінскай, балгарскай, габрэйскай, азербайджанскай і іншых мовах народаў, якія жывуць у Малдове. Адной з вядучых гэтага мерапрыемства была старшыня Беларускага культурнага руху ў Малдове Ганна Мазур.

Беларуская абшчына Рэспублікі Малдова парадавала гасцей і ўдзельнікаў свята выдатным выступленнем спевака Дзмітрыя Нікіціна з шыкоўнай беларускай песняй на музыку Эдуарда Ханка і словы Ніла Гілевіча з рэпертуару “Сяброў” ”Вы шуміце, шуміце нада мною бярозы”.

Усіх кранулі душэўны акапэльны выступ юнай і актыўнай дзесяцігадовай удзельніцы Беларускага культурнага руху Альбіны Анфінагенавай з беларускай народнай песняй ”Як пад новым годам зорачка свяціла”, якую яна таксама выдатна прэзентавала ў снежні мінулага года на ”Калядным свяце” ў Амбасадзе Беларусі ў Малдове.

Сёлета Масленіца ўпершыню праводзілася на Цэнтральнай плошчы сталіцы Малдовы. Ініцыятарамі свята былі Руская абшчына Рэспублікі Малдова і Асамблея народаў Малдовы. І Беларуская абшчына ў Малдове падтрымала іх у гэтым мерапрыемстве, а яе старшыня Юрый Статкевіч быў абраны старастам Масленіцы.

Кішынёўцам і гасцям сталіцы паказалі сапраўднае старажытнае славянскае свята з песнямі, карагодамі, абрадамі, блінамі, спальваннем пудзіла Зімы. Беларусы частавалі ўсіх дранікамі, прысмакамі ад ”Віцьбы”, зуброўкай. А таксама дарылі атрыманыя ад Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Малдова матэрыялы і буклеты аб нашай Бацькаўшчыне.

Дзень абаронцы Айчыны Беларуская абшчына адсвяткавала ў Доме нацыянальнасцяў. Мужчыны распавялі, якую маюць ваенную спецыяльнасць, дзе неслі вайсковую службу, як яны гатовыя абараняць Айчыну, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны падзяліліся сваімі ўспамінамі.

*Паводле Юрыя Статкевіча і Ганны Мазур*

# У НЬЮ-ЁРКУ АДБЫЎСЯ ДАБРАЧЫННЫ КАНЦЭРТ СОКАЛАВА-ВОЮША

14 лютага ў Нью-Ёрку адбыўся дабрачынны канцэрт, зладжаны Беларуска-Амерыканскім Згуртаваннем “Пагоня”. На канцэрце выступіў паэт, спявак і музыка Сяржук Сокалаў-Воюш. Слынны бард выканаў як свае знакамітыя песні, так і пазнейшыя ды зусім новыя творы. Прагучалі таксама ўкраінскія песні. Сп. Сокалаў-Воюш праводзіў свой канцэрт у вельмі інфарматыўным і цікавым фармаце, перамяжаючы спевы пад гітару аповедамі з асабістага досведу пра розныя прыклады супрацы беларусаў і ўкраінцаў. Напрыканцы прысутныя разам запялі беларускі ды ўкраінскі нацыянальныя гімны — “Мы выйдзем шчыльнымі радамі” і “Шчэ не ўмерла Украіна”. На канцэрце было сабрана 1860 даляраў. Гэтая сродкі пойдуць на пратэзы для цяжка параненых украінскіх патрыётаў. Асабліва дапамаглі ў правядзенні імпрэзы спадарства Сяржук Сокалаў-Воюш і Ганна Бартуль ды іхныя сыны, Святавіт і Славамір, а таксама Пётр і Алена Рыжыя, Марат Клакоцкі, Валянціна Якімовіч, Віктар Едзіновіч. Сп. Віктар Дудараў рабіў відэа і фотаздымкі імпрэзы.

*Паводле Віталя Зайкі*

# БЕЛАРУСЫ АМЕРЫКІ ГУКАЛІ ВЯСНУ

Нягледзячы на марознае надвор'е і абяцанне снежнага бурану, 1 сакавіка ньюёркская моладзь Беларуска-амерыканскага згуртавання ”Пагоня” сабралася на беразе ракі Гудзон, каб адсвяткаваць ”Гуканне Вясны”.

Загукальныя песні змяняліся карагодамі. Гурбы снегу і замерзлая рака не дазволілі патапіць ляльку Марэну, што ўвасабляла сабой зіму і зло. Давялося яе спаліць.

Нібы зразумеўшы беларускія спевы, на верхавіны дрэў, што стаялі абапал, раптам прыляцеў і пасела цэлая чарада птушак.

Пасля ўсе пайшлі ў хатку лодачнае станцыі падсілкавацца, дзе беларускія гаспадыні прыгатавалі рытуальную для Гукання ежу.

Хоць снежная завіруха і ўзмацнілася, усе разумелі, што хутка яе ўлада скончыцца і пачнуцца цёплыя веснавыя дзянькі.

*Паводле Валянціны Якімовіч*

# У КАНБЕРЫ АДКРЫЛАСЯ БЕЛАРУСКАЕ ПАСОЛЬСТВА

У Канберы 24 лютага прайшла афіцыйная цырымонія адкрыцця пасольства Рэспублікі Беларусь у Аўстралійскім Саюзе.

Як паведамляе прэс-служба беларускага МЗС, над будынкам пасольства быў узняты дзяржаўны сцяг Беларусі. На цырымоніі прысутнічалі намеснікі міністраў замежных спраў дзвюх краін Валянцін Рыбакоў і Рык Уэлс, прадстаўнікі аўстралійскіх дзяржаўных устаноў і дыпламатычнага корпуса Канберы.

У 2014 годзе былі адкрытыя пасольствы Беларусі ў Аўстраліі, Катары, Манголіі, Пакістане, Эквадоры і генеральнае консульства ў Мілане (Італія).

*Паводле Андрэя Серады, БелаПАН*

## АБВЕСТКА

Шаноўныя сябры, звяртаем вашую ўвагу, што ў нас памяняўся адрас электроннай пошты. Дасылайце свае лісты на **zbsb.minsk@gmail.com**.

*Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

# ЧЫМ ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСЫ ВІЛЬНІ

15 лютага 2015 г. у віленскім Доме нацыянальных суполак адбылася прэзентацыя набору паштовак "Vilnius — Вільня. Сталіца Літвы ў гісторыі Беларусі. Шпацыр па горадзе з Віктарам Корбутам", арганізаваная Таварыствам беларускай культуры ў Літве з удзелам аўтара — журналіста, гісторыка, экскурсавода з Мінска Віктара Кор-



бута. Паштоўкі выйшлі ў мінскім выдавецтве "Рыфтур" і адлюстроўваюць 10 мясцін Вільні, звязаных з жыццём і дзейнасцю вядомых беларусаў, а таксама прадстаўнікоў літоўскай і польскай культур. Віктар Корбут прадставіў не толькі паштоўкі, але і сваю кнігу "Минск. Лучший вид на этот город", якая таксама асвятляе эпізоды беларуска-літоўскай гісторыі.

Аўтар адзначыў важнасць супольных высілкаў усіх замілаваных Вільняй людзей у справе з'яўлення паштовак. Вялікую ролю ў тым, што яны пабачылі свет, адыгралі дызайнер Алена Жданоўская, дырэктар выдавецтва "Рыфтур" Сяргей Плыткевіч, дабрачынны фонд "Вяртанне" і Павел Бераговіч, пасольства Літвы ў Беларусі і пасол Эвалдас Ігнатавічус.

24 лютага ў Віленскай самаўправе адбылася сустрэча мэра Вільні Артураса Зуокаса з прадстаўнікамі шматлікіх беларускіх арганізацый Літвы. Мэр паабяцаў не толькі дапамагчы ім вырашыць даўнія складаныя праблемы беларускага грамадства літоўскай сталіцы, але і прапанаваў рэальную дапамогу. Напрыклад, грамадскаму аб'яднанню "Беларускі музей імя Івана Луцкевіча" было прапанавана як варыянт памяшканне для музейнай дзейнасці. Таксама Артурас Зуокас пагадзіўся не толькі ўзяць удзел у найбліжэйшых беларускіх святах (22 сакавіка і 25 сакавіка), але і дапамагчы ў іх арганізацыі.

27 лютага Віленскі біскуп Арунас Панішкайціс прыняў у сябе прадстаўнікоў беларускіх грамадскіх арганізацый Вільні.

Вядома, што ў міжваеннай Вільні бурліла беларускае рэлігійнае жыццё, было некалькі святароў, якія служылі па-беларуску, выдаваліся рэлігійныя кнігі, газеты, часопісы. Пасля акупацыі Вільні рускімі беларускае рэлігійнае жыццё спынілася. З набыццём Літвой незалежнасці распачыналіся спробы і па адраджэнні беларускага рэлігійнага жыцця. На вялікі жаль, да сённяшняга дня збольшага яны былі няўдалымі, нягледзячы на тое, што ў Вільні беларусам аддадзены касцёл св. Барталамея. З розных прычынаў, у тым ліку і праз адсутнасць адпаведных святароў, беларускі касцёл так і не стаў беларускім.

Падчас візітацыі касцёла св. Барталамея біскуп Арунас Панішкайціс адслужыў св. Імшу, і хоць ён служыў у сваім жыцці першы раз па-беларуску, у яго гэта атрымалася выдатна.

У размове з намі біскуп падзяліўся сваім бачаннем беларускага касцёла ў Вільні. На яго думку, касцёл св. Барталамея мусіць стацца толькі беларускім, і набажэнствы ў ім будуць адбывацца толькі па-беларуску. Цяпер галоўная задача – знайсці для гэтай мэты адпаведнага душпастыра. І паабяцаў са свайго боку для гэтага ўсё зрабіць. Таксама перадаў словы прывітання і падтрымкі ад Віленскага мітрапаліта Гінатараса Грушаса, які цалкам падзяляе вышэйвыкладзеную пазіцыю і таксама паабяцаў зрабіць усё магчымае, каб беларусы ў Віленскай архідыяцэзіі мелі магчымасць да паўнавартаснага беларускага рэлігійнага жыцця.

*Паводле сайта tavarystva.lt*

# ЛЮБІМ СВАЁ, ПАВАЖАЕМ ЧУЖОЕ

Многія ведаюць: суполку ва Усць-Каменагорску раней узначальваў Уладзімір Магазіншчыкаў, у ліку яе "першаадкрывальнікаў" была і Галіна Барысовіч. Мы прадаўжаем іх добрыя справы. Высокі гонар кіраваць Усходне-Казахстанскім абласным беларускім культурным аб'яднаннем даверылі мне, Галіне Жампеісавай (дзявочае прозвішча Краўчанка). Родам я з вёскі Падароск Ваўкавыскага раёна Гродзеншчыны, выйшла замуж у Казахстан.

Летась мы працавалі ў рэчышчы галоўнай для нас падзеі – 70 гадоў вызвалення Беларусі. Праводзілі сустрэчы з ветэранамі, працаўнікамі тылу, дзецьмі вайны. На занятках па беларускай мове і літаратуры знаёміліся з творчасцю беларускіх пісьменнікаў, кампазітараў, якія пісалі і пішуць пра вайну. А да адкрытага ўрока "Мы песні спяваем твае, Беларусь!" мы падрыхтавалі невялікія кніжачкі з успамінамі нашых супляменнікаў, якія ў гады вайны былі дзецьмі, перанеслі ўсе яе нягоды.

Цягам года мы вывучалі беларускія звычаі, традыцыі, абрады: спраўлялі Дажынкі, правялі беларускія абрады "Радзіны" і "Дзяды". Разам з рускім і ўкраінскім цэнтрамі адзначаем таксама Каляды, Раство Хрыстова, Вялікдзень. Працуе ў нас і фальклорны гурт "Крынічка": рыхтуем канцэрты і выязджаем з імі ў школы, санаторыі, пасёлкі, дзе жывуць беларусы. У 2013-м Міністэрства культуры Беларусі праводзіла конкурс: хто лепш пашырае беларускую культуру ў краінах замежжа. Мы атрымалі дыплом за працу, нацыянальныя строі, шмат відэа- і аўдыёматэрыялаў пра Беларусь, літаратуру — з рук Пасла Беларусі ў Казахстане Анатоля Нічкасава і консула Вадзіма Свярчкова летась у лістападзе. Дзякуй за прызнанне, родная Беларусь!

Актыўныя мы і пры падрыхтоўцы, правядзенні святаў Казахстана, жывем у дружбе і згодзе з прадстаўнікамі ўсіх нацыянальнасцяў. Год 2015-ы ў нас абвешчаны Годам міру, грамадскай згоды і адзінства казахстанцаў. Гэта і Год Асамблеі народа Казахстана: будзем сёлета святкаваць яе 20-гадовы юбілей. Звыш 150 мерапрыемстваў спланавалі этнааб'яднанні. Таксама будзем адзначаць 15-годдзе нашага аб'яднання: 26 снежня 2000 г. яно заявіла пра сябе. Задумалі круглыя сталы з "першаадкрывальнікамі" суполкі, выставы работ нашых майстроў, канцэрты. Запланавалі цыкл гутарак на тэму "Знаёмцеся: Беларусь", фэст "Беларускія сувеніры", Тыдзень беларускай культуры ў горадзе. Будуць сумесныя конкурсы, святы з украінскім, рускім і іншымі цэнтрамі. Будзем высаджваць дрэвы ў гонар юбілею Перамогі і да юбілею нашага аб'яднання. Правядзем конкурсы сярод моладзі на найлепшае выкананне беларускіх песень, чытанне вершаў беларускіх аўтараў, на найлепшы танец. Мы шануем і паважаем тых энтузіястаў, якія заснавалі і "паставілі на ногі" нашу беларускую суполку. Гэта Уладзімір Паўлавіч Магазіншчыкаў, Марат Віктаравіч і Ніна Мікалаеўна Прышчэпчыкі, Антаніна Міхайлаўна Шчэмер, Галіна Аўгусцінаўна Барысовіч, Раіса Цімафееўна Лушчаева, Ніна Іванаўна Смельц ды іншыя. Яны і цяпер разам з намі: дапамагаюць сваім удзелам у мерапрыемствах, слушнай парадай. І мы спадзяемся, што з гонарам, у цудоўнай творчай форме сустрэнем юбілей суполкі.

*Галіна Жампеісава, "Голас Радзімы"*

# АЛЕНА СІПАКОВА: "МЫ ТРЫМАЕМСЯ НА АБРАДАХ"

Сядзіба Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" заўжды гасцінна прымае беларусаў з усіх куткоў свету. Вось і ў сярэдзіне лютага да нас завітала госця з далёкай Сібіры - Алена Сіпакова. Яна была намесніцай старшыні Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага з 2003 года, а ў 2013 годзе ўзначаліла гэтую арганізацыю, якую, дарэчы, нядаўна ў чарговы раз адзначылі як адзін з найлепшыхнацыянальна-культурных цэнтраў Іркуцка па выніках года. Сярод найлепшых аказаўся і Моладзевы клуб "Крывічы", які, як паведаміла спадарыня Алена, у гэтым конкурсе ўдзельнічаў упершыню.



Ніна Шыдлоўская і Алена Сіпакова

Спадарыня Алена расказала нам пра тое, як таварыства пачало год (святкавалі Каляды і Грамніцы, паўдзельнічалі ў канцэрце для дзяцей украінскіх бежанцаў, правялі Вялікую Раду), пра цяперашняе жыццё ў таварыстве і пра планы на год, сярод якіх - правядзенне Першага фестывалю беларусаў свету на Байкале. Таксама яна падзялілася развагамі пра вытокі сваёй беларускасці і ўражаннямі ад сустрэчы з новымі сябрамі з мінскага аб'яднання былых малалетніх вязняў фашызму.

Вашай увазе - некаторыя вытрымкі з аповеду Алены Сіпаковай, які цалкам змешчаны на сайце **zbsb.org.**

**Байкал збярэ беларусаў**

Цяпер мы рыхтуемся да Першага фэсту беларусаў свету на Байкале, які плануецца ў першай палове жніўня. Праводзіць яго мы збіраемся на базе адпачынку нашага сябра Аляксандра Жылінскага. Гэта чалавек, моцна закаханы ў Байкал. Ён у свой час утварыў фестываль "Байкал-лайф", які праходзіць у апошнія дні жніўня, а апошнія чатыры гады і зімой.

У межах нашага фэсту будуць пешыя і водныя паходы, а для тых, хто зможа прыехаць раней, зладзім вандроўку на пік Чэрскага, пройдзем турыстычнымі сцежкамі на Слюдзянцы - там цудоўныя краявіды. У Іркуцку таксама будуць экскурсіі па беларускіх слядах.

Я збіраю беларусаў на іркуцкай зямлі для таго, каб беларусы, якія прыехалі сюды раней і дзесьці, магчыма, страцілі сваю беларускасць, вярнулі яе. Таму мы марым, каб уся праграма фэсту была беларускамоўная, каб беларусы паміж сабой размаўлялі на роднай мове. Будзе ў нас і беларуская кухня, будуць і майстар-класы па рамёствах, па народных танцах, па спевах. Ну і шмат яшчэ залежыць ад таго, якія людзі да нас далучацца і хто з іх што зможа дадаць.

**Пра свае карані і беларускасць у сям'і**

Я нарадзілася, як і мае мама і бабуля, у Прыбайкаллі, а продкі мае, што выехалі ў Сібір, былі з Магілёўшчыны.

Я была ў Заларынскім раёне, у вёсцы Новае Мяцёлкіна, куды трапілі мае продкі - прадзед з прабабуляй. Цяпер ужо вёскі як і няма - ёсць шыльда "Новае Мяцёлкіна", ёсць тры дамы, там жыве ўсяго пяць ці шэсць чалавек. Мая бабуля там нарадзілася і пайшла ў школу, дзе вучыліся дзеткі з трох вёсак. Летась быў юбілей гэтай школы, збіраліся выпускнікі - агулам гэта былі нашчадкі беларусаў. Школы самой няма, толькі рэшткі фундаменту засталіся, таму сустрэча была проста ў лесе. І ўпершыню ад нашчадкаў я так многа чула, маўляў, беларусы, беларусы, мы беларусы… Гэта было вельмі прыемна. Таму што нават мае цёткі, яны хоць таксама беларускі, таму што іх бацькі беларусы, але яны сябе беларусамі не называюць. Таму шмат складаных пытанняў з ідэнтычнасцю.

У многім мы трымаемся на абрадах, якія захаваліся. У маёй сям'і шмат беларускіх абрадаў спраўлялася, у мяне так мая зацікаўленасць і пайшла. Яна пачалася ад маёй маці, Сіпаковай Таццяны Уладзіміраўны. Яна кіравала нашым гуртом "Ленушка", і ў нас у рэпертуары былі ўсе нашыя сямейныя песні, якія спявалі і дзед, і бабуля, і сёстры, і дзядзькі. Калі збіралася сям'я, то гэтыя песні ўсе спявалі, я іх з самага дзяцінства памятаю.

Мова ў нашай сям'і захавалася толькі дзякуючы таму, што ў бабулі маёй было чатыры класы адукацыі, у дзеда ўвогуле ніякай, і яны ўвесь час жылі ў вёсцы. Толькі ў 1972 годзе яны трапілі ў Іркуцк, але таксама засяліліся ў прыватны сектар, і быт увесь захаваўся. Там ужо жыла старэйшая сястра бабулі, якая потым перацягнула туды сваіх сясцёр. Я прыязджала да бабулі з дзедам у горад, але ўсё ж такі быт быў вясковы. Палавікі на падлозе ляжалі. І свінак трымалі, і кароўку нейкі час.

Мая бабуля нават прыцягнула ў Іркуцк свой куфар, які прабабуля ўзяла з сабой з Беларусі. Цяпер ён у нас у суполцы стаіць як рэч, прывезеная пры перасяленні з Беларусі, бо такіх рэчаў не так і шмат. Многія рэчы побыту рабіліся беларусамі ўжо тут. Апошнія калаўроты рабіў бабін малодшы брат 1939 года нараджэння. Ён абыходзіў прыватны сектар і цётачкам ладзіў і кросны, і калаўроты, і нават жоравы для калодзежаў ставіў - паўсюль жоравы былі там, толькі апошнія пяць гадоў іх паздымалі.

А другі бабулін малодшы брат, 1933 года нараджэння, дык той атрымаў дзве адукацыі: спачатку ў сельгастэхнікуме, потым у педагагічным інстытуце - і ў яго нават акцэнту няма беларускага, усё страцілася. У нашай сям'і ўсё ж такі беларускасць захавалася дзякуючы таму, што не было адукацыі.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## ВІНШАВАННІ

# ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ



Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў сакавіку: **Лідзію Савік і Міколу Люцко** (Беларусь), а таксама юбілярку **Іну Снарскую** (Украіна), якая 7 сакавіка адзначае 50-годдзе. Зычым дарагім імянніннікам натхнення, выдатнага здароўя, душэўнай цеплыні і спагады, а таксама прыемных і цікавых падзеяў!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## МІКОЛА НІКАЛАЕЎ ВЫДАЎ КНІГУ ПРА НАВАГРУДСКІ ЦУДАДЗЕЙНЫ АБРАЗ МАЦІ БОЖАЙ



25 лютага ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ў межах круглага стала "Старажытнасці Навагрудчыны" адбылася прэзентацыя выдання "Кніга цудаў Наваградскай іконы Багародзіцы як помнік гісторыі XVII стагоддзя" беларускага гісторыка і грамадскага дзеяча Міколы Нікалаева.

Гэтае выданне змяшчае публікацыю арыгіналу і пераклад на сучасную беларускую мову выдання 1673 г. і прысвечанае гісторыі і апісанню цудаў Навагрудскай іконы Багародзіцы. Аўтар змясціў у кнізе кароткі гістарычны нарыс Наваградка ў час атрымання гэтага абраза, а таксама мясцовай рэзідэнцыі ордэна езуітаў.

Зацікаўленасць Міколы Нікалаева, які нядаўна адзначыў 60-гадовы юбілей, Навагрудчынай невыпадковая. Ён вучыўся ў навагрудскай СШ № 4, дзе пад уплывам свайго настаўніка гісторыі — Пятра Мазуры, ён пачаў захапляцца вывучэннем гісторыі. Сёння Мікола Нікалаеў жыве і працуе ў Санкт-Пецярбургу, займаючы пасаду загадчыка аддзела рэдкіх кніг Расійскай нацыянальнай бібліятэкі. З'яўляецца аўтарам шматлікіх манаграфій па беларускай кніжнай культуры: "Палата кнігапісная" (Мінск, 1993), "Беларускі Пецярбург" (Санкт-Пецярбург, 2009), "Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага" (Мінск, 2009) і іншых.

Таксама навуковец з'яўляецца адным з заснавальнікаў і членам прэзідыума Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

Апрача прэзентацыі кнігі ў Мінску, 27 лютага Мікола Нікалаеў наведаў і Навагрудак, дзе прэзентаваў сваё выданне мясцовай інтэлігенцыі.

Зацікаўленыя ў набыцці новай кнігі пра цудадзейны абраз і гісторыю Навагрудчыны могуць звярнуцца да аўтара, напісаўшы на e-mail: nikolaev@nlr.ru.

*Аксана Ючкавіч, catholic.by*

## ПАБАЧЫЎ СВЕТ ЗБОРНІК МАТЭРЫЯЛАЎ ПРА САКРАТА ЯНОВІЧА

Мінае чарговая гадавіна смерці Сакрата Яновіча. Пісьменнік, звязаны з беларуска-польскім памежжам, сышоў з жыцця 17 лютага 2013 года. Напярэдадні гэтай сумнай даты выйшла кніга "Сакрат Яновіч – трансгранічны пісьменнік. Студыя, успаміны, матэрыялы". Пра кнігу расказала адна з яе аўтарак, доктар Гражына Харытанюк-Міхей: "Каб пабачыць Сакрата Яновіча з розных бакоў – з аднаго боку як творцу, безумоўна, а з іншага, можна ўжо сказаць, як настаўніка. Гэтыя матэрыялы – ужо дакументы, таму што ёсць тут і ўспаміны, ёсць шмат карэспандэнцыі з канкрэтнымі асобамі, і пакалення Яновіча, і маладзейшых людзей, – як яны ўспрымаюць Яновіча і наколькі ён уплываў на іх творчасць".

Да выдання далучаныя запісы інтэрв'ю з Сакратам Яновічам, прыведзеныя ў выглядзе кружэлкі, якую прафінансавала "Беларускае Радыё Рацыя". Кніга "Сакрат Яновіч – трансгранічны пісьменнік. Студыя, успаміны, матэрыялы" паўстала пры фінансавай падтрымцы прэзідэнта горада Беласток.

*Мацей Рацінеўскі,*
*"Беларускае Радыё Рацыя"*

## "ВІДЫМУСЫ" ЛЯВОНА ЮРЭВІЧА

**Юрэвіч, Лявон. Відымусы. Мінск: Лімарыус, 2015. — 180 с.**

Новая кніга беларускага даследчыка-архівіста з Нью-Ёрка Лявона Юрэвіча, што пабачыла свет у мінскім выдавецтве "Лімарыус", названая старажытным словам "відымусы" — копіі, выпіскі з архіўных дакументаў.




Невялікае паводле памеру выданне (180 старонак) складаецца з кароткіх цытатаў ці пераказаў эпісталярыяў, мастацкіх твораў, артыкулаў і іншых тэкстаў, створаных як эміграцыйнымі, гэтак і метрапольнымі аўтарамі. Каментары да тых выпісак — мінімальныя, што дае магчымасць чытачу самому рабіць высновы з прачытанага. Часам аўтарская пазіцыя выяўляецца толькі ў назве чарговага відымусу або ў самім падборы сюжэтаў.

У якасці герояў кнігі выступаюць і класікі кшталту Янкі Купалы ды Якуба Коласа, і менш вядомыя ў Беларусі аўтары ці дзеячы, напрыклад, Мікола Дзямідаў, Аляксандр Ружанцоў, Алесь Карповіч ды іншыя (у імянным паказніку пазначаныя больш за 500 асобаў). Як адзначае ў прадмове літаратуразнаўца Ганна Кісліцына: "У Юрэвіча-даследчыка ёсць дзіўны талент — пісаць партрэты адной дэталлю, але дэталлю невыпадковай, сутнаснай, абумоўленай самім жыццём і лёсам. Нехта можа сказаць, што гэта не партрэты, а хутчэй шаржы. Можа быць, але вельмі яркія і запамінальныя".

"Відымусы" Лявона Юрэвіча — новы жанр айчыннай літаратуры і крыніцазнаўства. Кніга можа быць карысным і нават захапляльным чытвом як для прафесіяналаў (архівістаў, гісторыкаў, літаратуразнаўцаў), так і для аматараў беларускай мінуўшчыны, сучаснасці ды прыгожага пісьменства.

*Паводле Наталлі Гардзіенка*

## АБВЕШЧАНЫ ПРЫЁМ ПРАЦ НА ЛІТАРАТУРНЫ КОНКУРС "ЭКСЛІБРЫС" ІМЯ РЫГОРА БАРАДУЛІНА

24 лютага, у дзень, калі Народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну споўнілася б 80 гадоў, ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" абвяшчае пра пачатак прыёму прац на конкурс "Экслібрыс", які сёлета мае імя класіка і прысвечаны вершам і паэтычнаму перакладу.

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца паэты і перакладчыкі паэзіі на беларускую мову ва ўзросце да 30 гадоў.

Журы конкурсу: Раіса Баравікова, Леанід Дранько-Майсюк, Вольга Іпатава, Наталля Кучмель, Уладзімір Някляеў.

Тэксты на конкурс можна дасылаць файламі ў фармаце .doc да 1 жніўня 2015 года на адрас sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста "Конкурс". У лісце мусіць быць наступная інфармацыя: імя, прозвішча, дата нараджэння ўдзельніка, кантактны нумар тэлефона і e-mail.

За ходам конкурсу сачыце на сайце lit-bel.org.

*Прэс-служба*
*ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"*

# ВУШАЦКІ ВЕРАБЕЙ, БРЭЙГЕЛЬ, БЕЛАРУСКІ ГЕНІЙ




У Мінску прайшоў вечар памяці Рыгора Барадуліна – літаратара, значнасць якога для Беларусі надзвычай складана пераацаніць. 24 лютага Народнаму паэту споўнілася б 80 гадоў.

У зале Палаца Мастацтваў сабраліся бадай што самыя блізкія сябры Барадуліна ўшанаваць памяць паэта, а таксама падзяліцца ўспамінамі.

"Я заўважыў, што нават двор, дзе жыў Барадулін – змяніўся, – кажа мастак Рыгор Сітніца, які жыў побач з паэтам. – Я іду праз яго і думаю – двор Барадуліна, сквер Барадуліна, пад'езд Барадуліна, такое адчуванне што цяпер усе гэтыя рэчы, месцы зменшыліся ў аб'ёме, змяніўся ландшафт".

Старшыня ПЭН-цэнтра, паэт Андрэй Хадановіч прачытаў для прысутных нешта кшталту невялікай лекцыі і падзяліўся меркаваннем, што было б добра стварыць невялікую анталогію Барадуліна з простай назвай "Вушацкі верабей", што можа ўспрыняць у штыкі частка грамадства – прывыклі ў нас, што нельга пра выбітных асобаў без пафасу. Аднак сам Барадулін быў чалавекам самаіранічным і, як падаецца, у вобразе вушацкага вераб'я вывеў сябе.

Уладзімір Някляеў, Васіль Зуёнак, Анатоль Вярцінскі, Сяргей Законнікаў, Зміцер Вайцюшкевіч і іншыя выступоўцы, які прыгадвалі Дзядзьку Рыгора, паўтаралі адно і тое ж слова – "геній", але пры гэтым падкрэслівалі, што карыстацца ім трэба надзвычай асцярожна: слова за апошнія гады страціла частку сэнсу, пра каго цяпер толькі не пачуеш, што ён геніяльны. Аднак у выпадку Барадуліна гэта хутчэй не эпітэт, а канстатацыя факта.

Цягам вечарыны адбылася і другая важная падзея – прэзентацыя кнігі "Дзённікі і запісы" (Частка першая) – зборніка нататак, дзённікавых запісаў, уражанняў ад паездак. У чым каштоўнасць кнігі? Відавочна, што цікавая яна будзе не толькі для літаратуразнаўцаў – укладальніца Наталля Давыдзенка кажа, што сама магла б шмат разоў перачытваць дзённікавыя запісы Барадуліна, пра якія сам паэт пытаўся: "Няўжо гэта каму-небудзь можа быць цікава?"

"Дзённікі і запісы" даюць магчымасць убачыць невядомага нам Барадуліна – не толькі паэта ці суразмоўцу ў шматлікіх інтэрв'ю, а хутчэй чалавека, які сістэматычна занатоўвае нейкія хай дробныя, але важныя для яго рэчы. Спадарыня Наталля спадзяецца, што першая частка дзённікаў (якая ахоплівае перыяд з 1951 па 1969 год) не стане апошняй. Да таго ж попыт на кнігу – надзвычай вялікі.

Дык кім жа быў Барадулін? Вушацкім вераб'ём, Брэйгелем (з якім яго параўнаў Рыгор Сітніца), шчаслівым творцам з болей як сотняй кніг, чалавекам, якога не любілі ўлады (пра вуліцу Барадуліна пакуль застаецца толькі марыць)? Жартаўніком, традыцыяналістам, наватарам, мадэрністам? Выглядае на тое, што ў кожнага з нас – свой Барадулін. А гэта яшчэ раз даказвае, што Дзядзька Рыгор абсалютна адпавядае званню Нацыянальнага генія.

*Мікалай Левертаў, budzma.by*

**Таксама чытайце на нашым сайце па спасылцы zbsb.org/node/9606 успамін Сяргея Панізніка пад назваю "Выхад да мора Рыгора Барадуліна".**

# АД РУСКАМОЎНАГА 8-КЛАСНІКА ДА НАРОДНАГА ПАЭТА




Да 80-годдзя Рыгора Барадуліна супольнымі высілкамі Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Саюза беларускіх пісьменнікаў пабачыла свет унікальнае выданне – першы том дзённікаў і запісаў народнага паэта Беларусі.

Акрамя запісаў з нататнікаў і дзённікаў перыяду 1951—1969 гадоў у кнігу ўвайшлі вершы, якія не друкаваліся ў ранейшых зборніках, сяброўскія эпіграмы, віншаванні, дароўныя надпісы, а таксама малюнкі і аўтографы сяброў і знаёмых паэта.

Укладальніца "Дзённікаў" Наталля Давыдзенка, якой яшчэ пры жыцці Рыгор Іванавіч даверыў спрадкаваць яго запісы для перадачы на захаванне ў архіў, расказала, як апрацоўвала кожны нататнічак у пошуках унікальных словаў і мімалётных рыфмаў, з якіх потым нараджаліся папулярныя сёння вершы і паэмы. Праца Наталлі Давыдзенкі ўжо ўвасобілася ў такіх выданнях, як "Вушацкі словазбор", кніга ліставання Рыгора Барадуліна з маці "Паслаў бы табе душу..." і іншых. Але штуршком для стварэння "Дзённікаў і запісаў" стаў такі цікавы выпадак: "Аднойчы Рыгор Іванавіч і Валянціна Міхайлаўна *(яго жонка - Рэд.)* запрасілі мяне ў госці ва Ушачы, — кажа ўкладальніца кнігі. — Я прафесійным вокам пачала аглядаць усе нататнікі, кнігі і запісы Барадуліна, якія захоўваліся там. І сярод папер знайшла дзіцячы дзённік, які і распачынае новую кнігу! Гэтыя вельмі мілыя запісы рускамоўнага хлопчыка — 8-класніка. Калі чытаеш іх, складана ўявіць, што праз дзясяткі гадоў з яго вырасце народны паэт Беларусі".

Выданне аздобленае падрабязнымі каментарамі, якія цудоўна ілюструюць і тлумачаць нам той час. Гэта ператварае "Дзённікі" ў цікавую крыніцу не толькі для аматараў творчасці Рыгора Барадуліна і даследчыкаў-літаратуразнаўцаў, але і для прафесійных гісторыкаў.

Кніга "Дзённікі і запісы (1951—1959)" выйшла намаганнямі МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" пры дапамозе слыннай беларускай мецэнаткі з ЗША Ірэны Каляды-Смірновай у выдавецтве "Кнігазбор" у серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны" ("Людзі Беларусі").

*Інфармацыйны цэнтр*
*МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## БЕЛАРУСКУЮ ЛІТАРАТУРУ ЎРАТУЕ АГРЭСІЎНЫ МАРКЕТЫНГ?

"Сучасная беларуская літаратура на ўздыме!" Пагадзіцца з гэтай тэзай ці катэгарычна і абгрунтавана запярэчыць запрасіла ўсіх зацікаўленых жыхароў Віцебска кампанія "Будзьма беларусамі!". Афлайнавае ток-шоў адбылося 17 лютага ў віцебскай Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя М. Горкага.

"Вядома, мы не першыя, хто ініцыяваў дыскусію аб стане літаратуры і кніжнага рынку ў Беларусі сёння, – распачаў сустрэчу мадэратар дыскусіі і каардынатар кампаніі "Будзьма!" па Віцебшчыне Уладзімір Булаўскі. – Такія размовы ладзяцца ў прафесійных супольнасцях (кніжных кірмашах і форумах), у СМІ і, канечне, на кухнях. Мы ж хацелі б перадусім звярнуць увагу самых шырокіх колаў людзей на культуру чытання як такую: што чытаюць сённяшнія пакаленні беларусаў і як гэта можа адбіцца на будучыні нашага грамадства? Што мы мусім зрабіць, каб чыталі больш? І чыталі больш свайго?"

Выказаць экспертнае меркаванне мы запрасілі Алеся Замкоўскага (паэт, кіраўнік літаратурна-мастацкай часткі у віцебскім Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Якуба Коласа), Міраслава Лазоўскага (памочніка дырэктара выдавецтва "Кнігазбор"), Паўла Касцюкевіча (літаратара, арт-дырэктара мінскай кнігарні"логвінаЎ") і Ганну Шашуткіну (загадчыцу віцебскай Бібліятэкі-філіяла №19 імя Еўдакіі Лось).

### "Беларускай літаратуры як такой усяго стае"

Калі казаць пра тое, што сучасная беларуская літаратура сёння мае, "карцінка" выглядае цалкам прыстойна: эксперты згадвалі літаратурныя фестывалі, існуюць літаратурныя прэміі, праходзяць прэзентацыі кніг. Многія беларускія аўтары добра вядомыя па-за межамі краіны, выдаюцца літаратурныя часопісы, літаратуры прысвечаныя і online-рэсурсы. У рэгіёнах толькі ў межах кампаніі "Будзьма беларусамі!" штомесяц ладзіцца каля 30 літаратурных імпрэзаў. Пра мерапрыемствы, якія праводзяць у віцебскіх бібліятэках, захоплена расказала Ганна Шашуткіна. Са словаў прысутных, "беларускай літаратуры як такой усяго стае".

Але калі звярнуцца да вынікаў сацыялагічнага даследавання лабараторыі "Новак", праведзенага на замову ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", 80% беларусаў не чытаюць на беларускай мове увогуле, а 50 % ніколі не набываюць кнігі ў крамах, а колькасць людзей, якія чытаюць на роднай мове, за 5 гадоў скарацілася з 14% да 5%.

### У чым падвох?

З аднаго боку, беларуская літаратура, як і культура агулам, жыве ў сумным парадоксе: каб творцу прызналі на радзіме, ён мусіць быць вядомым за мяжой. Калі ж казаць менавіта пра беларускамоўную літаратуру, эксперты звяртаюць увагу на іншы аспект: "Не цікавяцца не толькі беларускай літаратурай, але і мовай, – кажа Алесь Замкоўскі. – У гэтым, я лічу, палягае асноўная праблема. Сёння, канечне, да мовы пачалі ставіцца больш лаяльна. Але ўзнікае пэўнае пачуццё абыякавасці. Людзі ёй не цікавяцца, адпаведна, і не цікавяцца тым, што на ёй напісана."

### "У Бога няма іншых рук, акрамя нашых"

Што ж трэба зрабіць, каб беларусы зацікавіліся сваёй літаратурай? Пачалі чытаць і набываць творы сучасных беларускіх пісьменнікаў?

Падчас абмеркавання былі прапанаваныя некалькі рэцэптаў папулярызацыі кнігачытання для прафесіяналаў і магчымасцяў уключыцца ў гэты працэс для кожнага з нас.

1. Інфармаваць гараджанаў пра мерапрыемствы. Рэклама сёння не патрабуе значных сродкаў: у сацыяльных сетках можна бясплатна і наўпрост трапіць на патрэбную вам аўдыторыю.

2. Адмыслоўцам варта не саромецца займацца "агрэсіўным культурніцкім маркетынгам". Мала шанцаў, што сённяшні чытач сам будзе шукаць інфармацыю як пра падзеі, так і пра кнігі ці аўтараў. "Агрэсіўны культурніцкі маркетынг заўсёды зробіць сваю справу! – падмацоўвае тэзу Міраслаў Лазоўскі. – І тут гаворка не толькі пра рэкламу ў сацыяльных сетках ці СМІ. З уласнага досведу: калі бібліятэкар ці прадавец натхнёна раіць кнігі, з продажам і зацікаўленасцю творамі сучасных беларускіх літаратараў няма ніякіх праблем!"

3. У рэгіёнах: шанаваць і папулярызаваць сваіх землякоў. "Запрашайце пісьменнікаў на прэзентацыі, аўтограф-сесіі і сустрэчы з чытачамі! З досведу працы кнігарні "логвінаЎ": да (і пасля) прэзентацыі любая кніга прадаецца значна лепей!" – адзначыў Павел Касцюкевіч. Блізкія стасункі чытачоў з літаратурай можна завязваць і праз гарадскія раманы: "Чытачу прыемна і цікава пазнаваць блізкую яму геаграфію", – прыйшлі да высновы эксперты.

4. Прэзентаваць літаратуру як шоў. Удзельнікі дыскусіі згадалі "заміксаваны з музыкай" выступ паэта Алеся Плоткі ў віцебскім клубе "Чердачок" і самі пачалі прапаноўваць ідэі па аб'яднанні літаратуры з іншымі жанрамі мастацтва.

"У Бога няма іншых рук, акрамя нашых!" – падвёў вынікі эксперт дыскусіі Міраслаў Лазоўскі. Гэтымі словамі хочам натхніць вас і мы! Давайце разам зробім сучасную беларускую літаратуру папулярнай і запатрабаванай! Тым больш што ў 2017 годзе Мінск прэтэндуе на званне Кніжнай сталіцы свету. А гэта гонар і адказнасць не аднаго горада, а ўсёй краіны. Апраўдаем? Час ёсць!

*Паводле budzma.by*

## "СВЯТЫ" АД ЛЯВОНА ВОЛЬСКАГА ЎЖО Ў КНІГАРНЯХ




Цягам года музыка і мастак Лявон Вольскі на сайце кампаніі "Будзьма беларусамі!" віншаваў нас з каляндарнымі і прафесійнымі святамі, многія з якіх дасталіся нам у спадчыну яшчэ з савецкіх часоў. І рабіў ён гэта незвычайна, пераасэнсоўваючы кожнае свята з уласцівым яму пачуццём гумару. Нарэшце 28 паштовак да 28 святаў сабраныя пад адной вокладкай, і кампанія "Будзьма!" радая прадставіць друкаваны набор "Святы, якія заўжды з табой" для тых, хто глядзіць на жыццё з гумарам.

"Пачынаў я з савецкіх святаў — 23 лютага і 8 сакавіка, — кажа Лявон Вольскі, — А далей пацягнуўся ланцуг — міліцыянты, дэсантнікі, будаўнікі, мытнікі, работнікі гандлю… Паштоўкі можна дарыць па прафесійнай прыкмеце — вынаходніка і рацыяналізатара ўшанаваць у ягоны дзень вясёлай карцінкай і пранікнёнымі словамі. А можна і парушаць гэты прынцып! Вось падабаецца табе дзяўчына, і ты хочаш прыцягнуць яе ўвагу. Тады можна метадычна дасылаць ці проста тэт-а-тэт дарыць ёй паштоўкі: "Віншую цябе з днём работніка сельскай гаспадаркі!" — напрыклад. Я думаю, яна ацэніць гэты крэатыўны падыход".

Набыць набор паштовак "Святы, якія заўжды з табой" можна ў сталічных крамах: "Акадэмкніга" (пр-т Незалежнасці, 72); кнігарня "логвінаЎ" (пр-т Незалежнасці, 37А); "Кніжны салон" (вул. Калініна, 5); "Кнігарня пісьменніка" (вул. Казлова, 2); "Веды" (вул. К. Маркса, 36); "Светач" (пр-т Пераможцаў, 11); "Цэнтральны кніжны" (пр-т Незалежнасці, 19); "Кнігі & кніжачкі" (пр-т Незалежнасці, 14); Кніжная выстава-кірмаш "Мир книг" (вул. Янкі Купалы, 27); "Эўрыка" (вул. Куйбышава, 75).

А таксама ў інтэрнэт-крамах knihi.by і prastora.by.

"Чакаць не трэба свята — яно заўжды з табой!"

*Паводле budzma.by*

## САМАБЫТНАЯ БЕЛАРУСЬ АДКРЫВАЕ СВАЕ ТАЯМНІЦЫ




25 лютага ў мінскім кафэ "Агінскі" адбылася прэзентацыя кніжных навінак, у тым ліку новых брашур з серыі "100 выдатных дзеячаў беларускай гісторыі і культуры" выдавецтва "Харвест". А культуролаг і пісьменніца Ірына Шумская прэзентавала сваю новую, цяпер англамоўную кнігу "Distinctive Belarus. On the Roads of Dukes, Magnates, and Poets" ("Самабытная Беларусь. Дарогамі князёў, магнатаў і паэтаў").

Выданне змяшчае шэраг нарысаў пра архітэктурную спадчыну нашай краіны і звязаныя з імі гістарычныя падзеі, прадстаўляе папулярныя ў народзе легенды разам з малавядомымі фактамі з рэчаіснасці. Кніга багата аздоблена ілюстрацыямі Язэпа Драздовіча, Напалеона Орды і фотаздымкамі – як самой аўтаркі, так і вядомага беларускага фотамастака Сяргея Плыткевіча.

Выданне ў першую чаргу скіравана на пашырэнне ведаў пра айчынную гісторыю і культурныя здабыткі Беларусі сярод грамадзян блізкага і далёкага замежжа, а таксама можа служыць у якасці турыстычнага дапаможніка для тых аматараў падарожжаў, хто яшчэ не паспеў азнаёміцца з асноўнымі цікавосткамі нашай Айчыны.

Кніга выйшла пры падтрымцы незалежнага Інстытута беларускай гісторыі і культуры і Таварыства аматараў гісторыі ім. В. Ластоўскага. Выданне выйшла невялікім накладам, і ў найбліжэйшы час плануецца яго распаўсюд па замежных бібліятэках, цэнтрах славістыкі і сярод прадстаўнікоў беларускіх дыяспар.

*Паводле tio.by*

## ГРАМНІЦЫ Ў ІРКУЦКУ

2 лютага іркуцкія беларусы правялі сустрэчу, прысвечаную Грамніцам – старадаўняму беларускаму абраду, які адкрывае ў народным календары цыкл мерапрыемстваў, накіраваных на паскарэнне прыходу вясны на зямлю. Асноўны атрыбут свята - грамнічная свечка, якая запальваецца ад жывога агню. Асвечаная ў гэты дзень свечка набывае магічную сілу і з'яўляецца адным наймагутнейшых абярэгаў, якім нашы продкі актыўна карысталіся цягам усяго года.

Сёлета нашы Грамніцы ўпершыню прайшлі ў два этапы: акрамя ўласна абрадавай часткі, якая адбылася 2 лютага, напярэдадні свята, 31 студзеня, мы сабраліся каб разам зрабіць васковыя свечкі. Ідэя самастойна зрабіць да свята свечкі ўпершыню паўстала яшчэ некалькі гадоў таму, але да яе рэалізацыі справа не даходзіла. Толькі адна свечка ў выглядзе вопыту была зроблена да леташніх Грамніц. Але гэтым разам літаральна ў апошнія дні перад святам усё ж мы вырашылі яшчэ на крок наблізіцца да традыцыі і зрабіць сапраўдныя свечкі. Пачалося знаёмства з этнаграфічнымі матэрыяламі, і мы са здзіўленнем прачыталі, што нашы продкі займаліся вырабам грамнічных не калі-небудзь, а ў апошнюю суботу перад святам – у той жа дзень, на які і мы, нічога пра гэта не ведаючы, прызначылі наш майстар-клас. Воск для свечак у нас быў самы сапраўдны – не з крамы і нават не вычышчаны ад рознага пчалінага смецця – яго нам даў наш стары сябар Леанід Ільіч Лабейка, гаспадар невялікі пчальніка, за што мы яму вельмі ўдзячныя. Для кноту ўзялі натуральную льняную нітку. Тэхналогію вырабу абранальі самую простую і старажытную – нітка раз-пораз акунаецца ў расплаўлены воск і паступова пакрываецца ўсё таўсцейшым яго пластом. Уся працэдура, якая заняла не менш за дзве гадзіны, суправаджалася распаведам пра традыцыі святкавання Грамніц і песнямі. Нягледзячы на тое, што шмат у каго свечкі атрымаліся крывабокімі і неакуратнымі, уражанні засталіся толькі станоўчыя. А праз два дні, 2 лютага, нашы самаробныя свечкі былі запаленыя ад жывога агню, атрыманага ад іскры, і набылі такім чынам сваю магічную сілу.

Адзначым таксама, што паралельна з Грамніцамі, падрыхтаванымі і праведзенымі Іркуцкім таварыствам беларускай культуры імя Яна Чэрскага, у той жа дзень у Іркуцку прайшлі другія Грамніцы, арганізаваныя Алегам Рудаковым на адкрыцці беларускай выставы ў іркуцкім Доме рамёстваў.

*Паводле Аляксея Кухты*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА САКАВІК 2015 ГОДА

2 сакавіка – год таму памёр народны Беларусі Рыгор Барадулін (1935-2014). Пахаваны побач з маці на могілках ва Ушачах.

4 сакавіка – 125 гадоў таму ў мяст. Гальшаны (цяпер Ашмянскі р-н) нарадзіўся Вінцук Адважны (сапр. Язэп Германовіч; 1890-1978), каталіцкі святар, пісьменнік, паэт, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Вялікабрытаніі.

5 сакавіка – 75 гадоў таму ў Санкт-Пецярбургу (тады Ленінградзе, Расія) памёр Аляксандр Сержпутоўскі (1864-1940), этнограф і фальклярыст.

5 сакавіка – 30 гадоў таму ў Гданьску (Польшча) памёр Тодар Куніцкі (1899-1985), лекар, адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні і Беларускага сялянскага саюза.

5 сакавіка – 15 гадоў таму ў Мінску трапіў пад машыну і загінуў Мікола Ермаловіч (1921-2000), гісторык, літаратуразнавец.

8 сакавіка – 105 гадоў таму ў в. Турэц (цяпер Карэліцкі р-н) нарадзіўся Пётр Конюх (1910-1994), спявак, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Бельгіі, ЗША і Канадзе.

14 сакавіка – 20 гадоў таму ў Нью-Йорку (ЗША) памёр Уладзімір Сядура (1910-1995), пісьменнік, літаратуразнавец, вязень савецкага канцлагера, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Пахаваны на могілках манастыра Святой Тройцы ў Джорданвілі (Нью-Йорк, ЗША).

17 сакавіка – 105 гадоў таму ў Вільні нарадзіўся Хведар Ільяшэвіч (1910-1948), пісьменнік, гісторык, журналіст, педагог, грамадска-культурны дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

19 сакавіка – 25 гадоў таму памёр Аляксандр Смаль (1903-1990), дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

21 сакавіка – 175 гадоў таму ў фальв. Свіраны (цяпер Вільнюскі пав., Літва) нарадзіўся Францішак Багушэвіч (1840-1900), паэт, празаік, публіцыст, удзельнік паўстання 1863-1864 гг.

25 сакавіка – Дзень Волі.

25 сакавіка – 65 гадоў таму, у 1950-м, у Сіднеі (Аўстралія) адбыўся I з'езд сябраў Беларускага аб'яднання ў Аўстраліі.

25 сакавіка – 15 гадоў таму, у 2000-м, у Мінску з удзелам 30 тысяч чалавек адбыўся "Марш свабоды".

28 сакавіка – 20 гадоў таму памёр Часлаў Найдзюк (1915-1995), грамадскі дзеяч, юрыст, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**Беларусы ў свеце**
№ 2(154), люты 2015

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не
супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і
вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com

тэл./факс (+375 17) 200-70-27